Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК. Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Выдаецца са снежня 1994 года

**№48 (608) 1 снежня 2011 года.**
**Кошт свабодны.**


У вёску прыехала аўталаўка. Свята!

Photo ByMedia.net

Лепельскі раён

# Новая форма дапамогі

■ Станіслаў Раманчук

**З кожным годам насельніцтва глыбінкі імкліва старэе і патрабуе ўсё большай увагі да сваіх жыццёвых праблем.**

Разумеючы гэта, адными з першых на Віцебшчыне ў Каменскім сельсавеце Лепельскага раёна ў пачатку новага тысячагоддзя стварылі сваё невялікае прадпрыемства па аказанні людзям камунальных паслуг. Паступова яго забяспечылі камплектам тэхнікі і зрабілі КУП "Каменьагрaсервіс" папулярным і вельмі патрэбным для пажылых вяскоўцаў, якім складана адным даць сабе рады. Штогод яно мае заказы па пасадцы агародаў і ўборцы вырашчанага ўраджаю, абмалоце збожжа, ды і ў халодны перыяд года запатрабавана. Для ацяплення хат патрэбна паліва, і клопаты па нарыхтоўцы і дастаўцы дроў узяў на сябе сельсавет. Так атрымліваецца значна танней, чым звяртацца за імі ў райпалівазбыт. Да таго ж, у сельсавеце ведаюць, у каго са старых якое матэрыяльнае становішча. Адзінокія пенсіянеры альбо з нізкімі пенсіямі атрымліваюць зніжкі на дровы, за паліва можна разлічыцца ў растэрміноўку на некалькі месяцаў. Для мясцовых жыхароў вялікі плюс, што можна таксама звярнуцца да сваіх камунальшчыкаў і аформіць заказ на дастаўку буйнагабарытных грузаў, будматэрыялаў. Ды і ў снежныя зімы лягчэй стала людзям хадзіць па вуліцах, якія адразу аператыўна чысціць ад выпаўшага снегу.



## Лічба нумара

**1200** – столькі чалавек і нават болей, па дадзеных расійскіх СМІ, неўзабаве пачнуць працаваць у новай штаб-кватэры пастаяннага наднацыянальнага органа Мытнага саюза РФ, РБ і Казахстана і Адзінай эканамічнай прасторы. Гэтая армія ўпраўленцаў з немаленькімі ганарарамі (дагэтуль у сакратарыяце адпаведнай камісіі МС было 150 чыноўнікаў) прыступіць да працы хутка, ужо ў будучым годзе. Да апошняга моманту было толькі невядома, дзе размесціцца сама "сталіца" АЭК, але ўгадалі тыя, хто меркаваў, што такім месцам застанецца Масква.

І сапраўды, абралі гэты мегаполіс - расійскую сталіцу. Вядома стала і новае месцазнаходжанне гэтай міждзяржаўнай структуры. Для кіраўніцтва першай наднацыянальнай штаб-кватэрай трох былых савецкіх рэспублік аператыўна падабралі раён падобных замежных дыппрадстаўніцтваў на Масфільмаўскай вуліцы, амаль што ў цэнтры Масквы. Там раней набыў гэты асабняк уплывовы расійскі банк ВТБ, але не знайшоў добрага пакупніка на сваю нерухомасць.

Ужо наступным летам, магчыма, як нам абяцаюць, гэты орган запрацуе на поўную магутнасць і нават на прынцыпах яго еўрапейскага аналага са штаб-кватэрай Еўракамісіі ў Брусэлі. Расійскі віцэ-прэм'ер Ігар Шувалаў заўважыў, што АЭК будзе стаяць "вне национальных интересов". Новы орган атрымае на самай справе больш паўнамоцтваў у параўнанні з адпаведнай камісіяй Мытнага саюзу і яго дэпартаменты стануць займацца сур'ёзнымі пытаннямі. У ліку такіх нават праблемы макраэканомікі, канкурэнцыі, энергетычнай палітыкі і ўстанаўленняў рэжымаў гандлю з трэцімі краінамі.

Прыйшлося і дамініруючай дзяржаве Расіі пайсці на сур'ёзныя саступкі ў механізме прыняцця рашэнняў і адмовіцца ад прынцыпу наяўнасці 57 % галасоў для галасавання на раўнапраўнае прадстаўніцтва з беларусамі і казахамі. РБ і Казахстан сумесна адстаялі пазіцыю : "адна краіна – адзін голас". Расіяне першымі вызначыліся, што іх краіну ў АЭК прадставіць вопытны віцэ-прэм'ер і міністр прамысловасці і гандлю Віктар Хрысценка і будзе ўзначальваць сумесную калегію на працягу 4 наступных гадоў. Гэты расійскі ўпраўленец высокага рангу прапаноўваў нават ратацыю праз 2 гады, але яму прадоўжылі тэрмін паўнамоцтваў, каб давесці ўсё намечанае да канца.

У адпаведнасці з дасягнутымі дамоўленасцямі рашэнні з узроўні Еўразійскай эканамічнай камісіі прымаюцца кансенсусам (згодай усіх яе членаў) альбо кваліфікаванай большасцю ў дзве трэці галасоў, а першым інтэргацыйным старшынёй будзе В. Хрысценка (Расія). Да гэтага рашэння тры постсавецкія краіны прыйшлі за 1,5 года, а ў далейшым намераны стварыць Еўразійскі і быццам эканамічны саюз да канца 2013 года. Усім стала ясна, што дажывае сваё больш міфічная, чым рэальная Саюзная дзяржава.

Простым людзям і найперш беларусам застаецца спадзявацца, што новая структура прынясе станоўчыя змены ў паўсядзённае жыццё. На ўсходнім накірунку мы станем жыць без межаў і мытных праверак і абмежаванняў, паколькі з нядаўняга часу на аўтамабілі за граніцу ў Еўропу і нават ва Украіну стала можна выязджаць раз у 8 дзён. Хочацца, каб гэты працэс інтэграцыі быў больш еўрапейскі, чым "азіяцкі", бо айчынная пэўная ізаляцыя ў сілу вядомых палітычных прычын прывяла нас да значнага падзення жыццёвага ўзроўню.

Пакуль жа Беларусь перадае ў Маскву амаль 175 сваіх раней нацыянальных функцый. Беларускі лідар лічыць магчымым і пераход на адзіную валюту, канешне ж, расійскі рубель з пэўнымі агаворкамі. У рэальным жыцці зараз свае пытанні, вось мы рашылі выбраць нават другога ацэншчыка МАЗа, стаў пакрыху расці курс беларускага рубля і прадоўжылі расці цэны. А для беларускай эканомікі наперадзе новы і даволі складаны экзамен. Наша суседка Расія з дня на дзень будзе прынята ў Сусветную гандлёвую арганізацыю. Для беларускіх вытворцаў гэта азначае ўзмацненне канкурэнцыі, вяскоўцы вымушаны будуць працаваць без ранейшай вялізнай дзяржпадтрымкі.

Пастаўскі раён

# Паехаў асабняк ... за мяжу

■ Кастусь Александровіч

**У наш час любому вытворцу, каб выжыць, неабходна актыўна займацца тэхпераўзбраеннем і выпускаць якасную, запатрабаваную айчынным і знешнім рынкамі прадукцыю.**

З разуменнем гэтага працэ апошнім часам і калектыў ААТ "Паставымэбля", дзе набылі нядаўна два навейшыя дрэваапрацоўчыя станкі італьянскай вытворчасці з лічбавым праграмным кіраваннем. Такая тэхніка вельмі спатрэбілася мэблевікам, якія асвоілі новую для сябе прадукцыю – выраб драўляных дамоў-зрубаў з ацыліндраванага бруса. Яны вырабляюцца, зыходзячы з канкрэтных пажаданняў людзей з немаленькімі даходамі. Падчас праходзіўшага ў райцэнтры летам інвестыцыйнага форуму прадукцыяй пастаўчан зацікавіліся ў Прыбалтыцы і днямі адзін з заказаў ужо адправіўся ў суседнюю Літву. У горадзе-пабрацціме Пастаў Купішкісе за кароткі тэрмін на месцы будзе сабраны сучасны двухпавярховы жылы дом. На прадпрыемстве разлічваюць пашырыць гэты накірунак дзейнасці, а дагэтуль камплекты вучнёўскай мэблі з рэгуліроўкай яе па вышыні і нахіле ў залежнасці ад росту вучня (адпавядаюць стандартам Еўрасаюзу) адгружаліся ў Латвію. Самы ж буйны заказ па працягу двух месяцаў пастаўчане выконвалі для школ Казахстана. Для іх перавозкі спатрэбіўся б цэлы поезд з 12 грузавых вагонаў, але эканамічна больш выгадна аказалася даставіць казахам гэту буйную партыю вялікагрузнымі аўтамабілямі.

Мёрскі раён

# З'явіўся свой "Благавест"

■ Чэслаў Якубовіч

**Адной з самых памятных і радасных падзей для жыхароў сельскай мясцовасці становіцца свята вёскі.**

А вось у мястэчку Язна, што ў Мёрскім раёне, пайшлі далей і сталі ладзіць сапраўдны культурна-духоўны фестываль на працягу некалькіх дзён. Пачатак яму дало святкаванне летась восенню 110-годдзя з дня асвячэння і пабудовы мясцовай Спаса-Прэабражэнскай царквы, якая знаходзіцца ў цэнтры цяперашняга аграгарадка. Ды і само гэта буйное паселішча на берагах адразу двух азёр цягнецца амаль 5 кіламетраў і мае дату заснавання ў далёкім 1475 годзе, аб чым захаваліся дакументальныя звесткі. З благаслення архіепіскапа Полацкага і Глыбоцкага Феадосія свята мястэчка Язна перараварылі сёлета ў хрысціянскі духоўны фестываль "Язненскі Благавест" у гонар Дня маці і Пакрова Прасвятой Багародзіцы. У ім прынялі ўдзел шмат праваслаўных вернікаў, дзяцей з шасці нядзельных школ па суседстве, а таксама з Наваполацка, Глыбокага і Браслава. Урачыстасці мясцовыя жыхары ладзілі аж 3 дні. Акрамя святочнай царкоўнай службы, з гэтай нагоды праз паселішча прайшоў хрэсны ход з удзелам некалькіх святароў і гасцей з Расіі. На другі дзень свята адбывалася ўжо ў Доме культуры, дзе ўшанавалі заслужаных людзей, гаспадароў лепшых сядзіб. На завяршэнне ўрачыстасцей адбыўся ў другі раз фестываль праваслаўнай моладзі з удзелам каля ста хлопчыкаў і дзяўчынак з розных куткоў вобласці.

## Надвор'е ў Глыбокім www.rp5ru

| | чацвер 01.12.11 | | | | пятн. 02.12.11 | | | | сб. 03.12.11 | | | | нядз. 04.12.11 | | | | пн.05.12. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +2 | +2 | +3 | +1 | 0 | +1 | +2 | +3 | +4 | +4 | +3 | +1 | -1 | +2 | +3 | +4 | +3 | +2 | +3 |
| Ціск, мм | 751 | 752 | 751 | 751 | 749 | 747 | 743 | 741 | 740 | 743 | 744 | 746 | 745 | 741 | 737 | 736 | 737 | 736 | 733 |
| Вільготнасць, % | 94 | 94 | 92 | 96 | 92 | 89 | 90 | 93 | 90 | 88 | 71 | 82 | 92 | 88 | 89 | 93 | 87 | 90 | 88 |
| Вецер м/сек | С-З 3 | С-З 4 | Ю-З 2 | Ю 1 | Ю 5 | Ю 5 | Ю 8 | Ю-З 7 | Ю-З 8 | З 6 | З 5 | Ю-З 4 | Ю 4 | Ю 6 | Ю-З 8 | Ю-З 6 | Ю-З 7 | Ю-З 6 | Ю 5 |
| | | 09:10 | 16:45 | | | 09:12 | 16:44 | | | 09:13 | 16:44 | | | 09:15 | 16:43 | | 09:16 | 16:42 | |
| | | 13:07 | - | | | 13:22 | 00:08 | | | 13:37 | 01:20 | | | 13:51 | 02:30 | | 14:06 | 03:39 | |

## Дзень за днём

**Сёлета ў Беларусі больш не будзе павышацца тарыфная стаўка 1-га разраду. Кіраўнік РБ даў ураду тэрмін да 9 мая 2012 года, каб палепшыць эканамічную сітуацыю. Яшчэ ў сярэдзіне лістапада базавая інфляцыя ў нас перавальвала за 100 %, па гэтым паказчыку нам не было "роўных" ні ў СНД, ні ва ўсёй Еўропе. Абаненцкая плата за тэлефон для беларусаў павялічылася ў 1,5 разы, замежныя даўгі краіны наблізіліся да катастрафічных – 100 % ад ВУП. Даларызацыя айчыннай эканомікі дасягнула "рэкорднага" ўзроўню: з амаль 104 трлн. рублёў у абароце лістапада толькі трэць былі беларускія рублі. Нават на рынках у Мінску цэны сталі, як у дарагіх маскоўскіх магазінах.**

# Важнейшыя навіны свету

**Расія.** Кіраўнік расійскай дэлегацыі на перамовах аб уступленні РФ у СГА Максім Мядведкаў заявіў, што і Казахстан у наступным годзе далучыцца да гэтай арганізацыі.

**Бельгія.** На сустрэчы ў Брусэлі глаў МЗС 27 краін ЕС былі ўведзены яшчэ больш жорсткія санкцыі ў дачыненні да кіраўніцтва Сірыі, на яе рэжым моцна ціснe і Ліга арабскіх дзяржаў.

**Малдова.** Дэпутаты парламента так і не дамовіліся, каго вылучыць на выбары кандыдатам у прэзідэнты, краіна ўжо больш за 2 гады жыве без афіцыйнага кіраўніка дзяржавы.

**Грузія.** Прэзідэнт Грузіі Міхаіл Саакашвілі на прыёме ў Лондане заявіў, што У. Пуцін з вяртаннем да ўлады ў Расіі паспрабуе зрабіць немагчымае: аднавіць зноў саюз ССР.

**Літва.** Гарадская рада Шаўляя пагадзілася надаць мясцоваму міжнароднаму аэрапорту імя былога прэзідэнта ЗША Рональда Рэйгана, тут базіруюцца таксама самалёты НАТА.

**Казахстан.** З нагоды 20-годдзя незалежнасці краіны ў Алма-Аты ў парку 1-га прэзідэнта адкрылася манументальная кампазіцыя з прыжыццёвай скульптурай Н. Назарбаева.

**Германія.** Песімістычныя настроі ўсё больш закранаюць немцаў пасля заявы канцлера ФРГ Ангелы Меркель, што для паляпшэння сітуацыі ў рэгіёне спатрэбіцца дзесяцігоддзе.

**Галандыя.** Нідэрландская асацыяцыя архітэктараў прызнала лепшай пабудовай 2011 года драўляны мост імя прарока Майсея, размешчаны ніжэй узроўню вады.

**Польшча.** Польскі прэм'ер Дональд Туск запатрабаваў сурова пакараць затрыманых у Варшаве 210 удзельнікаў масавых беспарадкаў, сярод якіх былі і 92 агрэсіўныя немцы.

**Таджыкістан.** Ахвярамі абвастрэння адносін з РФ пасля асуджэння яе лётчыкаў сталі тысячы простых людзей, якіх сталі масава дэпарціраваць на радзіму з заробкаў у Расіі.

**Расія.** Кампанія "Газпрам" пацвердзіла, што за пастаўкі газу ў III квартале сёлета Беларусь завінавацiла ёй 136 млн. $, даўгі беларусаў сталі рэгулярнымі, летась складалі 190 млн. $.

**ЗША.** Па цане каля 300 долараў за штуку кампанія Polaroid пачала продаж новых сваіх фотакамер Z340, здольных імгненна друкаваць каляровыя здымкі 8x10 см за 45 секунд.

**Швецыя.** Шведскі ПЭН-цэнтр узнагародзіў літаратурнай прэміяй за 2011 год беларускага паэта і грамадскага дзеяча Уладзіміра Някляева, але яго не пусцілі паехаць.

**Англія.** Усяго за 10 хвілін на аўкцыёне раскупілі ўсе 12 карцін юнага генія, 9-гадовага мастака Кірана Уільямсана, у чарзе на яго работы яшчэ 6 тысяч чалавек у свеце.

**Францыя.** У Парыжы прайшла прэзентацыя самага маштабнага ў свеце ралі "Дакар-2012" з удзелам 465 машын па тэрыторыі Чылі, Перу і Аргенціны на працягу 14 дзён.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Міністр працы і сацыяльнай абароны РБ М. Шчоткіна абвергла чуткі аб выплатах пенсіянерам матдапамогі да Новага года, не будзе ў нас і калядных канікул.

**Брэст.** Абласны бюджэт узяў утрыманне стратнага Лядовага палаца, такі ж аб'ект у Баранавічах за год зарабіў 350 тыс. $ даўгоў, нават "Мінск-Арэна" мае вялікія даўгі.

**Мінск.** Міністэрства адукацыі Беларусі прапанавала новыя правілы паступлення ў ВНУ: на завочнае браць толькі пры наяўнасці працы і адмяніць большасць ранейшых ільгот.

**Барысаў.** Бяздумнай прыватызацыі, заявіў тут А. Лукашэнка, у нас не было і не будзе і запатрабаваў спыніць у снежні "шалёнае цэнаўтварэнне" на прадукты харчавання.

**Бераставіца.** На паляванні ў лесе ля вёскі Канюхі жыхар Гродна забіў замест зайца свайго сябра, у Шчучынскім раёне старшыня калгаса раніў сына падчас загону звера.

**Мінск.** Улады Беларусі выказалі незадавальненне вынікамі ацэнкі МАЗа (800 млн. $) аўдытарскай кампаніяй Ernst&Young, рынкавы кошт КАМАЗа ў 2,5-3 разы вышэйшы.

**Ваўкавыск.** Трое дзяцей ва ўзросце да 11 гадоў у вёсцы Гнезна разбурылі вясковыя могілкі, выдралі крыжы, разбілі ўсе лампадкі, пашкодзілі надмагільныя помнікі.

**Мінск.** Новы дырэктар "Беларусьфільма" Алег Сільвановіч заявіў аб планах студыі зняць працяг культавага фільма "Белыя росы-2" па ўжо гатовым сцэнарыі.

**Драгічын.** З прысядзібнага ўчастка 48-гадовага жыхара вёскі Людвінава злодзей скраў тысячу саджанцаў маліны, 10 яблынь і 5 туй, такія злачынствы былі ў Кобрыне, Лунінцы.

**Гомель.** У горадзе аб'явілі творчы конкурс па стварэнні ў парку Фестывальны Алеі адпачынку па суседстве са створанай тут раней Алеяй закаханых.

**Бабруйск.** З мясцовай калоніі напярэдадні сустрэчы з адвакатам нечакана перавялі ў іншую турму экс-кандыдата ў прэзідэнты А. Саннікава, перш ён сядзеў у Навапалацку.

**Мінск.** Самы малады разведзены міністр культуры РБ Павел Латушка (яму няма і 40) зрабіў фурор на закрыцці "Лістапада" і з'явіўся на публіцы з чарговай прыгажуняй.

**Брэст.** Беларуская чыгунка адкрыла пакуль раз на дзень рэгулярны рух сучасных швейцарскіх электрацягнікоў Stadler па маршрутах да Баранавіч і Мінск-Баранавічы.

**Стаўбцы.** Жыхар раёна, ветэран вайны і былы вязень канцлагера ў стане абвастрэння хваробы пайшоў у грыбы і цэлы месяц хаваўся ў лесе ад фашыстаў, пакуль на 25-я суткі не памёр за 100 км ад свайго дома.

**Мінск.** Праз кардынала Коха мітрапаліт беларускі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч перадаў Папу Рымскаму Бенедыкту XVI запрашэнне наведаць РБ з пастырскім візітам.

## Беларусы змогуць атрымаць надбаўкі ў замежнай валюце за вахтавы метад работы



■ БелТА

**Нацбанк унёс змяненні ў парадак выкарыстання рэзідэнтамі і нерэзідэнтамі наяўнай замежнай валюты пры правядзенні валютных аперацый.**

**Як паведаміла прэс-служба банка, змяненні і дапаўненні ўнесены ў інструкцыю аб парадку правядзення валютных аперацый з выкарыстаннем наяўнай замежнай валюты і наяўных беларускіх рублёў ад 17 студзеня 2007 года № 1. Адпаведная пастанова праўлення Нацыянальнага банка (ад 8 лістапада 2011 года № 501) набудзе моц 1 студзеня 2012 года.**

Новаўвядзеннямі дазваляецца атрыманне імпарцёрамі ад контрагентаў-нерэзідэнтаў наяўнай замежнай валюты ў якасці: вяртання раней выплачанай нерэзідэнту сумы; уплаты нерэзідэнтам няўстойкі (штрафу, пені), кампенсацыі стратаў, іншых выплат, прадугледжаных дагаворам.

У абноўленай інструкцыі ўдакладняецца норма пра тое, што пры паездках работнікаў прадпрыемстваў за межы Беларусі магчымая выплата ім надбавак у наяўнай замежнай валюце за рухомы і раз'язны характар працы, вытворчасць працы вахтавым метадам, за пастаянную працу ў дарозе, працу па-за месцам пастаяннага жыхарства (палявое забеспячэнне).

У дачыненні да міжнародных арганізацый устанаўліваецца спрошчаны парадак унясення і зняцця наяўнай замежнай валюты, а ў дачыненні да юрыдычных асоб-нерэзідэнтаў, якія не маюць у Беларусі прадстаўніцтва (філіял), устанаўліваецца межавая сума ўнясення або зняцця наяўнай замежнай валюты (не больш за 50.000 долараў ЗША ў эквіваленце на працягу каляндарнага года).

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** Жыхары аддаленага мікрараёна Баравуха пачалі збіраць подпісы пратэсту супраць будаўніцтва паблізу іх жылля палігона для ачысткі забруджанага нафтай грунту.

**Орша.** На стыхійным сходзе ў Барані работнікі ЖЭУ № 8, абураныя заробкамі меней за 1 млн. рублёў, запатрабавалі павышэння зарплат на 50 % і не працавалі каля адной гадзіны.

**Шаркоўшчына.** Амаль 20 новых рабочых месцаў дасць новы цэх па выпуску актывававанага вугалю, які рыхтуецца запусціць у райцэнтры прыватная фірма "Белсарбент".

**Лёзна.** Новая аўтастанцыя ў райцэнтры каштам 2,8 млрд. рублёў падключылася да рэспубліканскай камп'ютарнай сістэмы продажу білетаў праз інтэрнэт.

**Віцебск.** У фірменных магазінах тэлезавода ААТ "Віцязь" з'явіліся навінкі прадпрыемства – электронныя кухонныя і напольныя вагі, тут сталі выраблядь і асвятляльныя прыборы.

**Шуміліна.** На працу ў датацыйны раён з пасады начальніка Сенненскага райсельгасхарча прыбыў новы старшыня райвыканкама Уладзімір Кураньы, ураджэнец Гомельшчыны .

**Паставы.** Вырабы мясцовага малочнага завода зноў сталі лаўрэатамі конкурсу "Лепшыя тавары Беларусі 2011 года на рынках Расіі", на заводзе пачалі ўзводзіць сырны цэх.

**Расоны.** Трохмесячная экспертыза вучоных Інстытута гісторыі НАН Беларусі пацвердзіла, што паднятая з ракі Дрыса фігура драўлянага ідала зроблена гадоў 30 назад і падробка.

**Ноўка.** У абноўленым СДК мясцовага аграгарадка прайшла сустрэча са 153 маладымі спецыялістамі, якія прыбылі сёлета на працу ў Віцебскі раён, пераважна адных віцяблян.

**Віцебск.** Вядомая мясцовая мастачка Святлана Баранкоўская перамагла са сваёй карцінай "Апостал" памяці Васіля Быкава на буйной выставе-конкурсе габеленаў ў Маскве.

**Браслаў.** Падчас аперацыі "Арсенал" міліцыя забрала кулямёт "Максім" і яшчэ 20 адзінак зброі з ваеннай экспазіцыі краязнаўчага музея, бо на іх не было адпаведных дакументаў.

**Орша.** Міліцыя затрымала 17-гадовага хлопца, які скраў у фермера 2 цыркулярныя пілы, супрацоўнікі МНС выратавалі ад гібелі ў пажары ў падвале дома траіх бамжоў.

**Лёзна.** Каля 21 гадзіны на трасе Р21 Віцебск – мяжа Расіі вадзіцель фуры збіў насмерць 73-гадовага пенсіянера, які пераходзіў дарогу ў забароненым месцы, хоць і з флікерам.

**Глыбокае.** За незаконную здабычу рыбы сеткамі суд пакараў жыхара раёна штрафам у суме 1,9 млн. рублёў, браканьеру трэба выплаціць і 2,3 млн. рублёў урону прыродзе.

**Віцебск.** З абласнога зборнага пункта аблваенкамата накіравалі на тэрміновую ваенную службу ў часці і на службу ў рэзерве больш за 1600 юнакоў з розных раёнаў вобласці.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# З мамай – па-беларуску, з татам – па-польску, у садзіку – па-нямецку

■ Уладзімір Скрабатун

**У Шуневічах яшчэ і сёння памятаюць настаўніцу – выкладчыцу французскай мовы ў мясцовай школе – Ядвігу Іосіфаўну Раманоўскую…**

**Спадарыня Ядвіга ўжо даўнавата выйшла замуж за Тадэвуша Вайнарскага і жыве ў Швейцарыі ў горадзе Räterschen. Дзяцей двое: 5-гадовы сын Ян, 3-гадовая дачка Зося.**

Сувязь з роднай Глыбоччынай падтрымлівае не толькі праз тэлефанаванні, электронную пошту, Скайп, але і праз "Вольнае Глыбокае", якое мы ёй дасылаем у звычайным канверце.

Спадарыня Ядвіга на тыдзень завітала на Глыбоччыну. У Стрынадках і Латыголі жывуць родныя сёстры, ды й наогул, шмат тут сяброў і знаёмых. А сёння Ядвіга Раманоўская – наш госць.

**У.С.:** ***Як пажываеш у сваёй Швейцарыі?***

**Я.Р.:** Як зайду ўвечары ў інтэрнэт, як пачытаю. што робіцца на Беларусі, цэлую ноч заснуць не магу!

**У.С.:** ***Спачуваю!***

***Я часта думаю, але па тваім прыездзе чамусьці заўсёды забываю задаць адно пытанне: у вас там, у Швейцарыі, – тры кантоны, дзе размаўляюць на трох розных мовах – нямецкай, французскай, італьянскай. А ў якім моўным кантоне пражывае твая сям'я?***

**Я.Р.:** Рэальнасць выглядае інакш! У Швейцарыі – 26 кантонаў і 3 моўныя рэгіёны, 4 дзяржаўныя мовы.

**У.С.:** ***Во як! А я верыў стэрэатыпам, як і большасць з нас. Склаліся яны пад уздзеяннем тэлебачання.***

**Я.Р:** Сярод дзяржаўных моў сапраўды нямецкая, французская, італьянская, але ёсць яшчэ і рэтараманская.

**У.С.:** ***Што за мова такая – рэтараманская?***

**Я.Р.:** Гэта невялікая тэрыторыя Швейцарыі, дзе на ёй размаўляюць. Дзяржава ўкладвае туды вялікія грошы, каб гэтую мову захаваць. Там і школы адкрыліся з навучаннем на рэтараманскай мове.

А яшчэ нядаўна з мужам прачыталі, што ў франкамоўнай частцы Швейцарыі ёсць нейкі стары французскі дыялект. Вось там на камунальным узроўні сабралі грошы і сталі адчыняць класы, каб дзяцей ў пачатковых класах навучаць на гэтым дыялекце. Робіцца дзеля таго, каб захаваць яго ад знікнення. Гэты дыялект вельмі цікавы для лінгвістаў.

Чаму я гэта падкрэсліваю? Хачу паказаць моўную палітыку швейцарскай дзяржавы.

**У.С.:** ***На будучы год у верасні ў Глыбокім будзе праводзіцца свята – Дзень беларускага пісьменства. На фоне Швейцарыі дык мы наогул глядзімся нікчэмна. Што тут беларускага засталося? Гіпатэтычна, каб у нейкім сельсавеце Глыбоцкага раёна (кантона – па-швейцарску) знайшоўся б нейкі дыялект беларускай (альбо, нават латышскай ці літоўскай) мовы, то па прыкладзе Швейцарыі тут мусілі б адкрыць школу з навучаннем на гэтым дыялекце. У нас жа наадварот – знішчаюць мову тытульнай нацыі беларускай дзяржавы, а што тут ужо разважаць аб захаванні нейкіх дыялектаў.***

***Зрэшты, у якім моўным рэгіёне пражывае твая сям'я?***

**Я.Р.:** У нямецкамоўным!

**У.С.:** ***І дома вы размаўляеце па-нямецку?***

**Я.Р.:** Не! З мамай дзеці – па-беларуску, з татам – па-польску, у садзіку – панямецку. Між сабой дзеці – па-беларуску.

**У.С.:** ***Моўная палітыка швейцарскай дзяржавы – у дзеянні! На сямейным узроўні!***

**Я.Р.:** Швейцарыя – досыць экзатычная краіна не толькі ў сваіх мовах, але




Ядвіга Раманоўская

і ў імёнах людзей. Мой сын – Ян, па-нямецку гэтае імя мусіла б гучаць як Ганс. Але ў Швейцарыі Гансаў няма. Прысутнічае славянскі варыянт, які занеслі сюды палякі і беларусы. Ян – адно з самых папулярных мужчынскіх імёнаў у Швейцарыі.

**У.С.:** ***А сама, акрамя выхавання дзяцей, чым займаешся?***

**Я.Р.:** Вучуся! Праз год атрымаю дыплом сацыяльнага педагога.

**У.С.:** ***Зразумела! І што, на заканчэнне нашай гутаркі, ты пажадаеш нашым чытачам?***

**Я.Р.:** Я хачу, каб яны дбалі за беларускую мову! Чаму?

Перад тым, як нарадзіўся старэйшы сын, я была на раздарожжы: якую мову выбраць для зносінаў са сваімі дзецьмі? Раілася з мужам. Я – з Беларусі, муж – з польскімі каранямі. Расейскую? Польскую? Я ж размаўляю з мужам па-польску. Альбо нямецкую? Бо жывём у нямецкамоўным рэгіёне.

Дзед майго мужа Тадзіка за часамі Сталіна патрапіў у ГУЛАГ… Загналі ў Белае мора… Загінуў! І ён кажа: "Як ты там сабе хочаш, выбірай любую, але толькі не расейскую!!!" Беларускую?

Я доўга думала: ці змагу? Але як нарадзіўся сын, я адчула, што усё ўва мне, што закладзена ад мамы, закладзена вельмі глыбока! Так і ў мяне да сына! І я зразумела, што родная мова, матчыная мае вялікі эмацыйны падклад. У французаў ёсць такі панятак – Maternelle (матчыная мова, родная мова) і ў немцаў – Mutter sprache. І як кажуць сучасныя неўрабіёлагі, усе нашыя дзеянні пабудаваныя на эмацыйнай аснове. Мы кіруемся эмоцыямі якія ў нас закладзеныя. І таму тое, што ты закладзеш дзецям, што ў цябе самой ідзе ад сэрца, дзеці хутка ўспрымуць. Родная мова ідзе праз сэрца, праз эмоцыі. І мае дзеці гэта адчулі. Мой муж быў вельмі шчаслівы, што я ў рэшце рэшт пачала з дзецьмі размаўляць па-беларуску. У нас жа, праўда, беларуская мова з карабоўскім каларытам. Усё, як казала некалі бабуля: сподкі, пекны, бацян…

У пачатку ішло не ўсё добра… Мой сын наогул не пачынаў размаўляць на ніводнай мове, і я стала задумвацца: можа, усё гэта марна, трэба скараціць зносіны на адну мову на карысць беларускай. Цяпер, дзякуй Богу, гляджу, што ўсе тры мовы пайшлі: беларуская, польская, нямецкая. Не марна! А дачка Зося, якой хутка тры гады, лапочыць на ўсіх трох мовах: хоць па тэлефоне, хоць тэт-а-тэт…

І вось нядаўна я задала сыну і дачцэ пытанне: "А можа з вамі размаўляць па-нямецку?" Сын вельмі абурыўся:

– Не-е-е, мама, толькі па-беларуску!

– А з татам? Можа панямецку?

– Не-е-е! З татам толькі па-польску!

І тады я зразумела, што ў дзяцей усё закладваецца праз эмоцыі. Яны адчуваюць гэтую добрую энергетыку, якую нясе родная мова. Я адкрыла для сябе столькі ўсяго, што пачала задумвацца: можа, таму і бяда беларусаў, што яны такія няўпэўненыя ў сабе, а прычына тая, што мы не ўмацоўваем свае карані, свае крыніцы… Трэба ўсё гэта мацаваць, а не адштурхоўваць ад сябе!

**У.С.:** ***Можа, бяда ў тым, што нас, ліцвінаў, расейскія акупацыйныя ўлады пасля 1840 года перайначылі на беларусаў? Ліквідавалі нацыянальную рэлігію – уніяцтва: хто пабег у праваслаўныя, а хто і ў каталікі… Згубілі гісторыю.***

**Я.Р.:** Я ўжо дасведчаная ў гэтых пытаннях. Прачытала кнігу Вадзіма Дзеружынскага "Тайны беларуской истории». Ён дапамог мне разабрацца ва ўсім гэтым...

**У.С.:** ***У Швейцарыі прачытала "Тайны беларуской истории"? Вадзім Дзеружынскі, напэўна, быў бы несказана рады, што яго кнігі беларусы чытаюць ва ўсім свеце!***

**Я.Р.:** Ну, я ж атрымліваю "Вольнае Глыбокае"! Таму ў курсе, якія кнігі трэба чытаць! Ну, а гэтую кнігу пад заказ мне сябрукі з Мінска прывезлі.

Нашу мову трэба дбаць! Можа, людзі тут і не задумваюцца, як важна ведаць свае карані, але за мяжой гэта вельмі адчуваецца. Гэта важна для маіх дзяцей, каб яны ведалі і памяталі свае карані. Наша планета ўжо становіцца адной вялікай вёскай, але людзі ўжо наеліся гэтай глабалізацыі! Каб не згубіцца ў гэтай мешаніне, трэба ведаць, хто ты і адкуль ты? Вось і мой сын Ян толькі аб тым і думае, каб як найхутчэй паехаць на Беларусь, на Глыбоччыну, пасядзець ля возера з вудай і налавіць рыбы… І толькі пытаецца:

– Калі ўжо мы паедзем на Беларусь лавіць рыбу?

Вось тут і бачны вынік! Выбар мовы быў правільны!

Правільнасць выбару мовы адчула даўно. Памятаецца, сыну тады было гады паўтара, і прыехалі мы ў Карабы… Сын так добра пачуваўся тут: ён чуў мелодыку той мовы, якую ведаў з дзяцінства, выдатна ўпісаўся ў Ані (сястры) у яе будзёную вясковую рэчаіснасць! Каровы, свінні! Сялянскае паходжанне!

Мы ж прыязджаем на радзіму не так ужо і часта. Далёка! Тэлефануем. Мой сын ужо забыўся, як выглядае тая бабуля і дзядуля, але як тэлефануем ім, пытаецца:

– Бабуля, як ты там мешся?

А бабуля аж сядзе:

– Ай-й-й! А мой яка ж ты ўнучок, мой унучок!!!

А Зося ў тэлефон пісклявым голасам:

– Бабуля-я-я, я цябе люблю-ю-ю!

– А як ты там, Зосечка?– пытае бабуля.

– Добра-а-а!

**У.С.:** ***Як ты дабіраешся да Беларусі? Набываеш візу?***

**Я.Р.:** У мяне беларускі пашпарт. Села ў самалёт і паляцела!

**У.С.:** ***Дзякуй, спадарыня Ядвіга, за цікавую гутарку. Упэўнены, што твае словы крануць душы сапраўдных беларусаў!***

## Паміж Латвіяй і Беларуссю пачынаецца малы прымежны рух

**Механізм малога прымежнага руху паміж Беларуссю і Латвіяй будзе запушчаны 1 снежня.**

У Віцебску 1 снежня адбудзецца абмен пісьмовымі апавяшчэннямі пра выкананне Беларуссю і Латвіяй унутрыдзяржаўных працэдур, неабходных для ўступу ў сілу дамовы паміж урадамі дзвюх краін пра спрошчаны парадак узаемных паездак жыхароў прымежных тэрыторый Беларусі і Латвіі ад 23 жніўня 2010 года, паведамілі БЕЛТА ў прэсслужбе МЗС Беларусі.

«Мяркуецца, што з паказанай даты мясцовымі органамі можа быць пачата фармаванне спісаў жыхароў прымежных тэрыторый, якія маюць права на атрыманне адпаведных дазволаў. Непасрэдна выдача дазволаў у Генеральным консульстве Беларусі ў Даўгаўпілсе і консульстве Латвіі ў Віцебску чакаецца з 1 лютага 2012 г.», — паінфармавалі ў замежнапалітычным ведамстве.



# Глыбачане наведалі месца трагедыі пад Смаленскам

■ Зміцер Лупач

**Вечарам 26 лістапада дэлегацыя з Глыбокага наведала месца катастрофы польскага самалёта пад Смаленскам. Прадстаўнікі Глыбоччыны ўсталявалі бярозавы крыж, які з'яўляецца сімвалам польскіх герояў, на месцы, дзе 10 красавіка мінулага года разбіўся самалёт польскага прэзідэнта.**


Ежы Вілк і Эўлалія Пяткевіч







Крыж асвяціў ксёндз Ежы Вілк, які зараз працуе ў Віцебску. Перад гэтым ён працаваў у Паставах, Дунілавічах, Пеліканах.

У складзе дэлегацыі прысутнічала таксама Эўлалія Пяткевіч, кіраўнік браслаўскай філіі грамадскага аб'яднання "Польска Мацеж Школьна", якая паведаміла, што бярозавы крыж з'яўляецца сімвалам польскіх герояў. "Гэта Галгофа польскага народа, – сказала яна, – і зараз тут таксама, як на Галгофе, знаходзяцца тры крыжы." Крыж вырабіў і ўсталяваў жыхар Глыбоччыны Стэфан Вярцінскі.

Пасля наведвання месца катастрофы прадстаўнікі Глыбоччыны наведалі месца пахавання ахвяр расстрэлу ў Катыні. Шмат у каго тут загінулі родныя і блізкія. Ксёндз Ежы Вілк, які з'яўляецца грамадзянінам Польшчы, таксама знайшоў тут прозвішчы сваякоў.

Перад ад'ездам з Катыні я сфатаграфаваў бюст Леніна, які быў закінуты за будаўнічым вагончыкам. Ільіч хітра шчурыўся на маё пытанне, як ён туды патрапіў, ахоўнік мемарыяла нічога не змог патлумачыць.

## Прымі ўдзел у патруляванні рэк — дапамажы ласосям!



– Ласось у Беларусі? Такое пытанне-здзіўленне, напэўна, задалі шматлікія. У адказ варта заўважыць – «Пакуль яшчэ так»!

Гэта не фантазіі, і гаворка ідзе зусім не пра таго ласося, якога можна купіць у краме. Гаворка ідзе пра прахадны від ласося — кумжы, якая заходзіць на нераст у нашы рэкі. Пра дзіўных рыб-вандроўнікаў ведаюць жыхары ў наваколлях ракі Вілія, менавіта па ёй яны паднімаюцца для нерасту і разыходзяцца па прытоках. На жаль, дадзены факт не застаўся без увагі з боку браканьераў.

Ва ўмовах малой колькасці заходзячай для нерасту рыбы нават адзінкавыя выпадкі яе здабычы ставяць пад сумнеў існаванне віду ў Беларусі. Бо чым менш рыб зможа паспяхова завяршыць нераст, тым менш іх вернецца ў нашыя рэкі праз некалькі гадоў.

**ВЫ МОЖАЦЕ ПРЫНЯЦЬ УДЗЕЛ У ПАТРУЛЯВАННІ РЭК СУМЕСНА З РЫБАЛОВАМІ-ВАЛАНЦЁРАМІ.**

Патруляванне будзе праходзіць падчас нерасту прыкладнана да канца снежня.

Калі Вы гатовыя прыняць удзел – звяжыцеся з сакратарыятам АПБ, дзе вы зможаце атрымаць далейшую інфармацыю.

Патруляванне праходзіць у палявых умовах, валанцёры начуюць у палатках і кантралююць рэкі ў цёмны час сутак.

Пры звароце ў офіс АПБ, паведамляйце даты, калі вы можаце прыняць удзел, а таксама ці ёсць у вас магчымасць паехаць на аўтамабілі (выдаткі на паліва кампенсуюцца), вашу гатоўнасць пражыць некалькі дзён у палявых умовах у лістападзе-снежні.

Валанцёры для патрулявання будуць адбірацца, зыходзячы з іх маральных якасцяў, вусныя рэкамендацыі вядомых у АПБ людзей вітаюцца.

Кантактная асоба: Вольга Лукшыц: e-mail: Lukshyts@ptushki.org. тэл. (017) 263-06-13 — гарадскі.

## У Беларусі на 1000 зарэгістраваных шлюбаў прыпадае 423 разводы

Так, за студзень-кастрычнік гэтага года ў краіне зарэгістравана больш як 73,4 тыс. шлюбаў. Колькасць новых сямейных саюзаў павялічылася ў параўнанні са студзенем-кастрычнікам 2010 года на 9,3%. Дарэчы, пазітыўная тэндэнцыя росту колькасці шлюбаў намецілася ў краіне яшчэ па выніках студзеня-мая 2011 года (на 1,9% да ўзроўню студзеня-мая 2010 года), у наступныя месяцы яна ўмацавалася. За дзесяць месяцаў гэтага года на 1000 жыхароў прыпадала 9,3 шлюбы (за аналагічны мінулагодні перыяд — 8,5).

У студзені-кастрычніку скасавана амаль 31,1 тыс. шлюбаў. Колькасць разводаў прадаўжае расці — іх стала на 6,7% больш у параўнанні са студзенем-кастрычнікам 2010 года. Паказчык разводаў павысіўся адпаведна з 3,7 на 1000 жыхароў да 3,9.

Пры гэтым за студзень-кастрычнік 2011 года на 1000 шлюбаў прыпадала 423 разводы, за аналагічны перыяд 2010 года — 433.

*БелТА*

## Друя адзначыла 625-годдзе!

У суботу друяне адзначалі 625 гадоў з дня заснавання іх населенага пункта. Урачыстасці пачаліся ў будынку сельвыканкама, дзе ганаровых гасцей, якія прыехалі на свята, віталі намеснік старшыні райвыканкама Іна Лысенка і в.а. старшыні сельвыканкама Ларыса Корсак. Сярод запрошаных былі прадстаўнікі Полацкага пагранатрада, былыя кіраўнікі мясцовай улады, знакамітыя выхадцы з Друі. Завітаў на свята і друянін доктар тэхнічных навук Эдуард Краўчонак, які да нядаўняга часу працаваў у цэнтральным НДІ спецмашбудавання. Дарэчы, яго дзед у свой час быў мэрам Друі. Як сказаў пры размове Э. Краўчонак, на малую радзіму ён прыязджае двойчы ў год, тут ён заражаецца бадзёрасцю.

Для гасцей былі наладжаны экскурсіі ў бальніцу сястрынскага догляду і сярэднюю школу.

Тым часам жыхары пасёлка сабраліся на цэнтральнай плошчы, дзе нядаўна набыў сваю прапіску знакаміты Барысаў камень.

Пад гукі духавога аркестра адбылася невялікая ўрачыстасць па адкрыцці гэтага помніка даўніны, кіраўнікі раёна і прадстаўнікі грамадскасці ўсклалі да каменя кветкі.

Ля Дома культуры можна было згуляць у бяспройгрышную сельскагаспадарчую латарэю, пачаставацца прысмакамі ў павільёнах райпа, для дзяцей працавала гульнявая пляцоўка.

Пазней усіх прысутных запрасілі ў глядзельную залу ДК, дзе і адбылося асноўнае дзейства. Вядучыя расказвалі пра багатую гісторыю пасёлка, яго знакамітых людзей, гераічныя і трагічныя старонкі жыцця.

Усіх прысутных са святам павіншавалі старшыня райвыканкама Пётр Гішкелюк і дырэктар мясцовай гаспадаркі Аляксандр Бялюн.

Шмат цёплых слоў у адрас землякоў прагучала і з вуснаў вядучых.

*Аляксандр Азевіч.*
*www.braslav-star.by*


Друя. Колішні кляштар бернардынцаў.

## Пры спробах незаконнага вывазу з краіны малочных прадуктаў затрымалі двух беларусаў

**Канструктыўныя асаблівасці сваіх аўтамабіляў выкарысталі двое грамадзян Беларусі для вывазу малочнай прадукцыі беларускай вытворчасці ў суседнюю Украіну.**

Як паведамілі ў прэс-цэнтры Дзяржаўнага пагранічнага камітэта, жыхар Жыткавічаў, выязджаючы ва Украіну раніцай 27 лістапада ў пункце пропуску «Глушкевічы», схаваў 120 банак згушчанага малака і 6 кг сметанковага масла пад бакавой абшыўкай у салоне і ў правых бакавых дзвярах мікрааўтобуса «Івека». Прадукты харчавання прыкладна на 1,3 мільёна рублёў канфіскаваныя, аўтамабіль коштам 26 мільёнаў рублёў затрыманы да рашэння суда.

З 55 пачкамі сметанковага масла і чатырма пакетамі смятаны давялося развітацца ў гэты ж дзень жыхару Кобрына. Мужчына перасякаў мяжу ў пункце спрошчанага пропуску «Дзівін» на аўтамабілі «Фіят». Пінскія пагранічнікі знайшлі незадэклараваны тавар пад заднім сядзеннем машыны. Транспартны сродак таксама канфіскаваны да рашэння суда.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

# Дзень, праведзены на рыбалцы ці паляванні, не залічваецца на рахунак жыцця

■ В.А. Бурэнь,
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Прырода шчодра надзяліла нашу краіну шматлікімі лясамі і азёрамі. Мясціны ў Беларусі сапраўды вельмі прыгожыя, і гэта прыцягвае ў лясы і на азёры грамадзян як для актыўнага адпачынку, так і проста пабыць на свежым паветры. Да актыўнага адпачынку смела можна аднесці рыбалку і паляванне. Рыбакі і паляўнічыя кажуць, што дзень, праведзены на рыбалцы ці паляванні, не залічваецца на рахунак жыцця, значыць, чалавек павялічвае свой век. Можа, яно і так на самай справе, бо любы актыўны адпачынак дае толькі дадатны вынік. Кожны паляўнічы ведае, што, знаходзячыся на стралковым нумары падчас палявання і пачуўшы голас сабакі, якая працуе па звеpу, гэта – велізарны выкід адрэналіну, напружанае чаканне і радасць ад здабытага трафея. На жаль, не ўсе нашы грамадзяне расцэньваюць паляванне як сродак адпачынку, зносіны з прыродай, сябрамі, а законна здабыты трафей проста як дадатак да ўдалага палявання. Для звычайнага паляўнічага важны не здабыты трафей, а самі зносіны з аднадумцамі.

Штотыдзень супрацоўнікі Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь па краіне затрымоўваюць дзясяткі браканьераў, канфіскоўваюць сотні кілаграм незаконна здабытага мяса дзікіх жывёл, дзясяткі адзінак зброі, не выключэннем з'яўляецца і праца супрацоўнікаў Глыбоцкай міжрайінспекцыі. Сёлета ў браканьераў канфіскавана 8 адзінак зброі, больш за 300 кг незаконна здабытага мяса. Вядома, хацелася б, каб да здабычы жывёл браканьерства не даходзіла.

Яшчэ напачатку лістапада 2011 года супрацоўнікам міжрайінспекцыі паступіў сігнал пра тое, што каля в. Буды Шаркоўшчынскага раёна стала з'яўляцца аўтамашына з рэгістрацыйнымі нумарамі г. Мінска і праводзіцца незаконнае паляванне. Нягледзячы на тое, што дадзены раён не ўваходзіць у зону адказнасці Глыбоцкай інспекцыі, супрацоўнікі неадназарова праводзілі адпрацоўку дадзенай тэрыторыі, была ўстаноўлена марка і нумар аўтамашыны. 26 лістапада каля 1 гадзіны ночы інспектарам паступіў сігнал пра тое, што падобную аўтамашыну зноў бачылі паблізу в. Буды. Улічваючы, што рэйдавая група міжрайінспекцыі знаходзілася на значнай адлегласці ад в. Буды, інспектары звярнуліся да супрацоўнікаў Шаркоўшчынскага РАУС. Працаўнікі міліцыі як сапраўдныя прафесіяналы адразу адрэагавалі на паведамленне і неўзабаве затрымалі аўтамашыну «Мерседэс», у якой знаходзіліся трое маладых грамадзян, а таксама 3 паляўнічыя стрэльбы, 2 з якіх не зарэгістраваныя, 28 патронаў. Усе стрэльбы былі зараджаны і абсталяваны лазернымі цэлеўказальнікамі. Рэйдавая група прыбыла неадкладна і сумесна з працаўнікамі міліцыі хутка ўстанавіла ўсю карціну незаконнага браканьерскага палявання. Двое жыхароў г. Мінска і адзін мясцовы жыхар зараз будуць адказваць перад законам, і тое, што яны не паспелі нічога здабыць, толькі лепш для іх. Зброя канфіскаваная, акрамя пакарання за незаконнае паляванне аднаго з уладальнікаў незарэгістраваных стрэльбаў чакае яшчэ і пакаранне за незаконнае захоўванне агнястрэльнай зброі і боепрыпасаў.

Гэта ўсяго адзін прыклад, але ён яскрава паказвае, што ўсе разам: простыя грамадзяне, працаўнікі міліцыі і інспекцыі – могуць аператыўна спыняць факты браканьерства і ставіць на месца парушальнікаў, якія зарваліся.

Супрацоўнікі інспекцыі выказваюць падзяку ўсім грамадзянам, якія аказваюць дапамогу ў барацьбе з браканьерствам і спыненні парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства.

Пра ўсе вядомыя факты парушэння прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць па тэлефонах: 8-02156 - 2-86-70 - кругласутачна.

Начальнік інспекцыі, маб. 897-23-02, інспектары: 890-55-28, 249-45-49, 347-85-14.



# Рыбак захрас у дрыгве, калі спрабаваў скрасці рыбу ў Шчучынскім раёне

Двое «рыбакоў» скралі ў арандаванай сажалцы каля вёскі Гурнофель Шчучынскага раёна 35 кілаграмаў карпа. Аднак з'есці не паспелі.

Адзін з выкрадальнікаў праваліўся ў яму на дне вадаёма і ледзь не патануў.

Як паведамляюць у Мастоўскай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету, супрацоўнікі ААТ «Васілішкі» спусцілі ваду, каб вылавіць карпа на продаж.

Браканьеры вырашылі пажывіцца рыбай і сталі выцягваць яе падхватнікам. Калі прыбылі прадстаўнікі ААТ «Васілішкі» і супрацоўнікі інспекцыі, адзін з аматараў незаконнай лоўлі знаходзіўся на дне сажалкі ў дрыгве па шыю. Пасля выратавання выкрадальніка яго і «калегу» затрымалі.

*Паводле nn.by*




*Людмілу Мар'янаўну Шарабайку*

**Віншуем з 60-годдзем!**

Примите поздравленья
От родных Вам людей.
От души мы все желаем
Мира, солнца и тепла,
Ну, а главное, здоровья,
Счастья в жизни и добра.
Пусть счастье Вас не покидает,
Здоровье пусть не убывает,
Прекрасных, светлых, мирных дней
Желаем Вам в Ваш юбилей.

***Сын, нявестка, унукі Віталік, Вадзім.***

*Людмілу Мар'янаўну Шарабайку*

**Сардэчна віншуем з юбілеем!**

Тебе, родная наша, всего лишь 6О,
Душа твоя всё краше, ещё теплее взгляд.
Ночами не спала ты, трудилась день и ночь,
Всегда была готова ты каждому помочь.
И нас ты научила работать и любить,
И мы, как ты, стремимся полезными всем быть.
Ты отдала нам годы душевного тепла
И через все невзгоды всегда вперёд вела.
Тебе, любимой маме, единственной, родной,
Шлём поздравленья наши и наш поклон земной.

***Дачка, зяць, унукі Надзя і Жэнік.***

# Ужыванне прылад ахоўнага адключэння

■ А.С.Крывёнак,
*старэйшы інспектар Глыбоцкага МРА «Энерганагляд».*

**Адным са спосабаў павышэння электрабяспекі з'яўляецца ўжыванне прылад ахоўнага адключэння (УЗО). Прылады ахоўнага адключэння адносяцца да дадатковых відаў абароны чалавека ад паражэння электрычным токам пры ўскосным дакрананні, якія забяспечваюцца шляхам аўтаматычнага адключэння сілкавання.**

Пры малых токах замыкання, зніжэнні узроўню ізаляцыі, абрыве нулявога ахоўнага правадніка зануленне недастаткова эфектыўнае. У гэтых выпадках УЗО з'яўляецца адзіным сродкам абароны чалавека ад паражэння электрычным токам.

Уласцівасцю УЗО з'яўляецца забеспячэнне абароны чалавека ад паражэння электрычным токам пры прамым дакрананні да адной з токаводных частак, абарона ад узгарання і пажараў з прычыны няспраўнасці электраправодкі і абсталявання.

У выніку дэфектаў ізаляцыі, замыкання на зямлі, уцечкі току на зямлю УЗО рэагуе на ток уцечкі на зямлю ці ахоўны праваднік загадзя, да з'яўлення кароткага замыкання, адключаючы электраўстаноўку ад сеткі сілкавання, прадухіляючы нагрэў праваднікa, іскрэнне, узнікненне дугі і магчымае наступнае ўзгаранне.

У абавязковым парадку УЗО ўсталёўваюцца для абароны:

■ групавых ліній, якія сілкуюць разетачныя сеткі, змешчаныя па-за памяшканнямі і ў памяшканнях асабліва небяспечных і з падвышанай небяспекай паражэння электрычным токам;

■ групавых ліній у мабільных будынках з металу ці металічнага каркаса;

■ групавых ліній, якія сілкуюць электрапрымальнікі ў ванных, душавых і парыльных аддзяленнях;

■ групавых ліній, якія сілкуюць свяцільні мясцовага стацыянарнага асвятлення пры напрузе сеткі вышэй за 25 В у памяшканнях з падвышанай небяспекай паражэння электрычным токам і асабліва небяспечных;

■ групавых ліній, якія сілкуюць свяцільні класа абароны 1 агульнага асвятлення ў памяшканнях з падвышанай небяспекай паражэння электрычным токам і асабліва небяспечных пры вышыні ўсталёўкі меней за 2,5 м над падлогай;

■ групавых ліній, якія сілкуюць разеткі на сталах вучняў у кабінетах і лабараторыях;

■ сістэм электраабагравання падлог;

■ групавых сетак усталёвак светлавой рэкламы;

■ групавых ліній, якія сілкуюць разетачныя сеткі ў памяшканнях жылых хат з токаправоднымі (бетоннымі) падлогамі;

Забараняецца ўсталёўка УЗО для абароны электрапрымальнікаў, адключэнне якіх можа прывесці да небяспечных наступстваў, выбухаў, пажараў. Напрыклад, у ланцугах любой сігналізацыі, пажарных помпах, адказных вентылятарах.

Павінны выкарыстоўвацца пераважна такія УЗО, якія ўяўляюць адзіны апарат з аўтаматычным выключальнікам, што забяспечвае абарону ад звыштоку. Выкарыстоўваць УЗО ў групавых лініях, якія не маюць абароны ад звыштоку, без дадатковага апарата, які забяспечвае гэтую абарону, **недапушчальна.**

Таксама трэба звярнуць увагу на тыповыя памылкі, якія допускаюцца ў мантажы УЗО і выклікаюць ілжывае спрацоўванне: падключэнне нагрузак да нулявога ахоўнага провада да УЗО; падключэнне нагрузак да нулявога рабочага праваднікa іншага УЗО; падключэнне да яго нагрузкі ў ланцугу, у якім маецца злучэнне нулявога рабочага праваднікa з адкрытымі праводзячымі часткамі электраўстаноўкі, ці злучэнне з нулявым ахоўным праваднікoм. Для таго, каб пазбегнуць гэтых памылак, разлікам, мантажом і наладкай электрычных схем з выкарыстаннем УЗО павінны займацца кваліфікаваныя спецыялісты. Толькі ў гэтым выпадку можна гарантаваць, што абарона спрацуе правільна.




**Прылада ахоўнага адключэння (УЗО – устройство защитного отключения).**

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

5 – 11 снежня 2011 г.



Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар 166 кругласутачна. Выразна назавіце газету. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".

Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 р.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 5 снежня




**06.00, 07.05, 07.35, 08.10, 08.35** Доброе утро, Беларусь!
**07.00, 08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.00** Новости.
**07.30, 08.30** Деловая жизнь.
**08.45** Слово Митрополита Тадеуша Кондрусевича на Адвент.
**09.10** В центре внимания.
**10.05 «Покушение»**
**11.00 «Отряд»**
**12.10** Комедийная мелодрама **«Просто неотразима»** (США).
**13.55** «Звезды вне закона».
**15.10, 19.15** Новости региона.
**15.25** Культурные люди.
**16.00** К тёще на блины.
**16.35** Тэлефільм АТН «Круглае»
**16.50 «Покушение»**
**17.45 «Отряд»**
**18.45, 01.05** «Зона Х».
**19.30** Арена.
**19.55** Форум.
**21.00** Панорама.
**21.45, 01.15** День спорта.
**22.00** Командировка.
**22.10 «Доктор Хаус-6»** (США).
**23.15** Клуб редакторов.
**00.15** «Никита Джигурда».




**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.15** «Понять. Простить».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** Вячеслав Тихонов в фильме **«Дело было в Пенькове»**.
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Тележурнал «Союз».
**13.40** «Контрольная закупка».
**14.10** «Модный приговор».
**15.10 «Обручальное кольцо»**. Многосерийный фильм.
**16.00** Наши новости (с субтитрами).
**16.10** Новости спорта.
**16.15** Премьера. **«Участковый детектив»**.
**16.55** «Евгений Миронов. «Фамилия обязывает».
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Красноармейцы против коммунаров. Как штурмовали отель «Савой».
**18.55** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Открытый формат».
**22.10 «Побег»**. Многосерийный фильм.
**23.15** Премьера. «Судьба на выбор».
**00.20** «След».
**01.05-01.35** Ночные новости.




**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Ешь и худей.
**09.40** Навіны надвор'я.
**10.10** Женсовет.
**10.50** Кинопробы.
**11.20** Битва экстрасенсов.
**12.30 «Поцелуй Сократа»**
**13.35 «Жаркий лед»**. 1-я серия.
**14.35 «Гора самоцветов»** (Россия).
**14.50** Внеклассный час.
**15.10** Нескучный глобус.
**15.35 «Интерны»** (Россия).
**16.15»Зайцев+1»** (Россия).
**16.50 «Поцелуй Сократа»**
**17.55 «Жаркий лед»**. 1-я серия.
**18.55** Фантастическая комедия **«Исповедь невидимки»** (Франция-США).
**21.05** Калыханка.
**21.20** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Белорусское времечко.
**22.35 «Интерны»** (Россия).
**23.20»Зайцев+1»** (Россия).
**23.50** Овертайм.
**00.20** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.10** «Зеленый огурец. Полезная передача».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Секретные территории».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** «Большой город».
**13.10** «Дальние родственники».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг».
**15.00** Концерт М.Задорнова.
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Огонь любви»**.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.35** «Кинопонедельник»: **«ЗИМНЯЯ ЖАРА»**. Россия-Франция-Испания-Бельгия , 2004 г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Столичный футбол».
**23.30** «Тайны мира с Анной Чапман».




**7:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**7:40** Зона «Свабоды»
**8:10 «Таямніца крэпасці шыфраў»**: 4 серыя
**8:55** Прэс-экспрэс
**9:10** Дакументальная гадзіна: «Катынь»
**9:55** ПраСвет
**10:20 «Ваенныя гульні»**: 4 серыя
**11:10** Эксперт
**11:35** «Краты», дак. цыкл
**11:45 «Ясмін»**
**13:35** Зона «Свабоды»
**14:05 «Таямніца крэпасці шыфраў»**: 4 серыя
**14:50** Прэс-экспрэс
**15:10** ПраСвет
**15:30** «Краты», дак. цыкл
**15:45 «Ваенныя гульні»** : 4 серыя
**16:30** Эксперт
**17:00 «Таямніца Сагалі»**: 8 серыя
**17:25** Зона «Свабоды»
**18:00** Аб'ектыў
**18:05** Дакументальная гадзіна: «Катынь»
**18:50** «Як пушчу стралу», дак. фільм, 2009 г., Беларусь
**19:15** Моўнік
**19:30** Аб'ектыў
**19:40** Гарачы каментар
**19:50** Калыханка для самых маленькіх
**20:00** Еўропа сёння
**20:25** Вагон
**20:35** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Маскоўская жонка»
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** «Краты», дак. цыкл
**21:35** Рэмарка
**21:55 «Ясмін»**
**23:45** Аб'ектыў
**0:10** Гарачы каментар

